


# Весткі й Паведамленьні

інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня “ПАГОНЯ”

Viestki j Paviedamleńni

Электронны адрас: viestki@mail.com
✉ P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735

№ 3 (649)
Сакавік 2020 г.


## Ушанаваньне выбітнага дзеяча



14 студзеня Сэнат Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту (ЭГУ) надаў ступень Ганаровага доктара выбітнаму дзеячу беларускай эміграцы Вітаўту Кіпелю “за самаадданасьць справе беларускай асьветы і культуры замежжа”.

Др. Вітаўт Кіпель – выпускнік беларускай гімназіі імя Янкі Купалы ў Рэгенсбургу, доктар мінэралёгіі Лёвэнскага каталіцкага ўнівэрсытэту, доўгачасовы выканаўчы дырэктар Дасьледчага цэнтру навукі і тэхналёгіі Нью-Ёрскай Публічнай Бібліятэкі. У 1975 годзе др. Кіпель быў узнагароджаны мэдалём Паняволеных Народаў Эйзэнхаўэра. З 1982 году др. Кіпель займае пасаду старшыні адной з найбольш уплывовых беларускіх навуковых ўстаноў замежжа – Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку.

Дзякуючы непамернай адданасьці справе беларускага руху ў эміграцы, др. Кіпель быў заступнікам старшыні Саюзу беларусаў Бэльгіі, стваральнікам і дырэктарам беларускіх фэстываляў у Нью-Джэрзі, выкладаў у беларускай школе ў Брукліне, цягам 1960–1980-х гадоў стала супрацоўнічаў зь беларускай рэдакцыяй “Радыё Свабода”.

Д-р Кіпель гэтаксама вядомы як лідар беларускага рэспубліканскага руху ЗША. У 1972–1982 гг. ён займаў пасаду старшыні Фэдэрацыі беларускіх рэспубліканскіх клюбаў, а ў 1974 годзе быў абраны на старшыню Рэспубліканскай фэдэрацыі штату Нью-Джэрзі. У 1978–1982 гадах д-р Кіпель быў старшынём Этнічнай рады штату Нью-Джэрзі.

Сярод найбольш грунтоўных акадэмічных унёскаў др. Кіпеля зьяўляецца праца “Беларусы ў ЗША”, выдадзеная па-беларуску ў 1993 годзе і па-ангельску ў 1999-м. Дзякуючы гэтай кнізе, др. Кіпеля можна па-сапраўднаму лічыць бацькам навуковага беларускага эміграцыязнаўства. 600-старонкавая праца дагэтуль застаецца каштоўнай крыніцай ведаў аб гісторыі беларускай справы ў ЗША.

З моманту заснавання ЭГУ ў 1992 годзе ступень Ганаровага доктара была нададзена такім выбітным дзеячам культуры, палітыкі і мастацтваў, як айцец Аляксандар Надсан, Алесь Разанаў, Кшыштаф Занусьсі, праф. Сяргей Аверынцаў, д-р Джанатан Фэнтан, др. Ганс-Герт Пёттэрынг, праф. Альгірдас Бразаўскас і іншыя.

*Паводле https://be.ehu.lt*

## Шаноўныя сябры!



Запрашаем адзначыць з намі старадаўні абрад **Гуканьня Вясны**, як гэта рабілі нашыя продкі штогод. Сьвяткаваньне адбудзецца ў маляўнічых мясьцінах на беразе ракі Гудзон (прыкладна 40 хвілін язды на цягніку ад Мангэтану) каля станцыі **Осынінг** (**Ossining**) у суботу **7 сакавіка 2020 году** (у выпадку непагоды перанясём на 8 сакавіка) па адрасу:

***1 Westerly Road, Ossining, NY 10562***

Пачатак а **12-й гадзіне папаўдні**. Кошт квітка **$20** дарослым і **$10** дзецям да 10 гадоў.

Падсілкуемся традыцыйнымі абрадавымі стравамі ў клюбе, а тады ў строях будзем вадзіць карагоды і прасіць птушак прынесьці доўгачаканую вясну на сваіх крылах. Падчас кульмінацыі сьвята пусьцім саламяную ляльку (а зь ёю і ўсе непрыемнасьці і цёмныя думкі) па хвалях паўнаводнага Гудзону.

Праграма імпрэзы:
- 12.00–1.00 гадз. – абед.
- 1.00–2.00 гадз. – Гуканьне Вясны на беразе ракі.
- 2.00–3.00 гадз. – кава і пачастункі.
- 3.00–5.00 гадз. – парныя танцы.

З пытаньнямі зьвяртайцеся да арганізатараў **Пятра і Алены Рыжых** (тэл.***(914) 522-0742***, емэйл: ***lenabelarus@yahoo.com***), а таксама да **Ганны Шарко** і **Аляксандра Мазгавога** (емэйл: ***sharkohanna@gmail.com***). Сардэчна запрашаем!

# Лютаўскі сход Згуртаваньня “Пагоня”

У нядзелю, 8 лютага 2020 году, у Доме Маракоў на Мангэтане адбыўся лютаўскі сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня”. Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка распавёў пра нядаўна прайшоўшыя імпрэзы “Пагоні” і падзяліўся плянамі на гэты год. У прыватнасьці ён адзначыў, што неўзабаве, на пачатку сакавіка, будзе праводзіцца традыцыйны абрад Гуканьня Вясны, які пройдзе ў Осынынгу на беразе ракі Гудзон, у штаце Нью-Ёрк. Далей заплянаваныя сьвяткаваньне Дня Незалежнасьці Беларусі – 25 Сакавіка, Чарнобыльскі мітынг, Купальле ў чэрвені, і Марш Паняволеных Народаў у ліпені.

Затым з прывітаньнем да прысутных выступіла маладая кінарэжысэрка сп-ня Насьця Сергіеня, якая распрацавала і падрыхтавала для ажыцьцяўленьня праект: фільм пра адзін дзень беларускі ў Нью-Ёрку. Як пададзена ў артыкуле пра фільм, што мае назву “Dream & Smile”, “гэта гісторыя аднаго чалавека, але ў той жа час яна пра мільёны людзей, якія маюць падобны вопыт: цяжкасьці, з якімі сутыкаюцца экспаты (модная назва для імігрантаў), праблемы самарэалізацыі, адзінота, надзея, шчасьце. Акрамя тэмы міграцыі, рэжысэрка закране тэмы сэкс-бізнэсу, этнічнай разнастайнасьці і сацыяльнай справядлівасьці”. Цяпер Насьця зьбірае грошы на праект праз краўдфандынг (збор сродкаў праз сеціва), падзякавала ўсім, хто ўжо падтрымаў праект, падаравала паштоўкі ў знак удзячнасьці прысутным дабрадзеям. Затым яна падсумавала цяперашнюю фазу праекта, што вельмі абнадзейвае.


Насьця Сергіеня

Затым перад прысутнымі выступіла адмыслова запрашаная адвакатка сп-ня Аляксандра Раманенка, якая займаецца пытаньнямі працоўнага права. Яна распавяла пра сябе, што паходзіць з Гомелю, вучылася ў Белдзяржунівэрсытэце ў Менску, затым перабралася ў ЗША. У 2014 годзе скончыла юрыдычную школу Гарадзкога ўнівэрсытэту Нью-Ёрку (CUNY Law School), і перш працавала ў невялікіх юрыдычных фірмах, а цяпер стала працаваць у вялікай кампаніі. Прамоўца спынілася на кшталтах працоўнага права і асаблівасьцях судовых позваў і справаў у гэтай галіне. Яна распавяла таксама, чаму яна абрала менавіта гэтую галіну права. Асноўнымі групамі справаў у працоўным праве зьяўляюцца дыскрымінацыя па пытаньнях працы ў розных формах, нявыплата або недаплата за працу і час, і парушэньне працоўных пагадненьняў.


Аляксандра Раманенка

Затым сп-ня Раманенка спынілася на асаблівасьцях працаўладкаваньня ў Амэрыцы, і на “at will employment”, калі наймо адбываецца па ўзаемнай дамоўленасьці бакоў, і можа быць перарванае адным з бакоў у кожны патрэбны момант, што тым самым мае свае дадатныя і адмоўныя бакі.

Таксама Аляксандра Раманенка згадала пра клясавыя позвы – калектыўныя судовыя справы па розных аспэктах працоўных спрэчак. Яна апісала шэраг прыкладаў – судовых справаў, якія даваліся весьці, у тым ліку справы па дыскрымінацыі (“дыскрымінацыя – мой хлеб”), і таксама рэчы, на якія трэба зьвяртаць увагу пры найме на працу, і ў якіх выпадках зьвяртацца да юрыстаў. Прамоўца адказала на пытаньні прысутных, і жадаючыя маглі ўзяць візытоўку з кантактнай інфармацыяй.

Затым перад прысутнымі выступіла арганізатарка грамадзкіх імпрэзаў і кіраўнічка групы “Беларусы ЗША. Разам лягчэй” сп-ня Ганна Шарко. Яна паведаміла пра рыхтуемую імпрэзу – традыцыйны абрад Гуканьня Вясны, інфармацыя неўзабаве будзе пастаўленая ў сеціве і на Фэйсбуку. Сп-ня Шарко таксама распавяла пра дзейнасьць сваёй групы і старонку на Фэйсбуку, якая мае ўжо каля 8 тысяч сяброў, і пра пляны на бліжэйшы час.


Ганна Шарко

У разьдзеле “Рознае” адбыліся знаёмствы з гасьцямі арганізацыі, і затым прысутныя мелі нагоду працягнуць знаёмствы і калегавацца пры сьціплых пачастунках.

**Віталь ЗАЙКА**

## Паважаныя сябры!

Жадаючыя яшчэ могуць замовіць **каляндар Згуртаваньня “Пагоня” на 2020 год**. Зрабіць гэта можна, напісаўшы ў рэдакцыю на емэйл адрас ***viestki@mail.com*** альбо наведаўшы старонку ***e-krama.com***

Кошт аднаго асобніка з улікам паштовай перасылкі **$10**.



# Пра Беларускую Канаду ў гісторыі й сучаснасьці, Натальлю Арсеньневу, Міколу Абрамчыка, Радаслава Астроўскага й іншых

***Запісы БІНіМ. №. 41. Нью-Ёрк—Менск, 2019. — 820 с.***

Пабачыў сьвет чарговы (41-ы) выпуск альманаху "Запісы" Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва (Нью-Ёрк). Новы нумар гэтага адзінага, прысьвечанага беларускай эміграцыі, пэрыёдыка атрымаўся надзвычай насычаны й разнастайны. Асноўная тэма – Беларуская Канада – прадстаўленая публікацыямі як пра зьяўленьне беларусаў у гэтай краіне ў XIX – пачатку XX ст.ст., гэтак і пра паваенных эмігрантаў ды сучасныя беларускія арганізацыі й ініцыятывы. Сярод аўтараў можна пабачыць саміх канадыйскіх беларусаў: старшыню Рады БНР Івонку Сурвіллу, прафэсара Зіну Гімпелевіч, мастачку Ірыну Варабей, пісьменнікаў і грамадзкіх дзеячаў Пётру Мурзёнка, Юрася Шамецьку, Віялету Кавалёву, Валянціну Шаўчэнку, якія распавядаюць пра Канадыйскі БІНіМ і Чарнобыльскі фонд, Згуртаваньне Беларусаў Канады й "Яваровых людзей".




Тыя, хто цікавіцца гісторыяй беларускай прысутнасьці ў Канадзе, знойдуць на старонках гэтых "Запісаў" аповеды пра зьяўленьне ў краіне беларускіх эвангельскіх хрысьціянаў ды пра стварэньне асяродку ў горадзе Ашава, пра публікацыю ў канадыйскай энцыкляпэдыі першага артыкулу, прысьвечанага беларусам, ды пра стварэньне англамоўнай "Гісторыі беларусаў у Канадзе" Янкі Садоўскага, пра тое, дзе можна знайсьці дакумэнты пра канадыйскіх суродзічаў, ды што ўяўлялі сабою таронтаўскія пэрыёдыкі "Беларускі Эмігрант" і "Беларускі Голас". Таксама ў нумары зьмешчана надзвычай багатае ліставаньне пісьменьніка Кастуся Акулы, як прысьвечанае ягоным творам, гэтак і грамадзкаму ды сямейнаму жыцьцю, перамогам і складанасьцям. З іншых канадыйскіх эпісталярыяў – лісты пісьменьніка Міколы Сільвановіча, грамадзкага дзеяча Алеся Грыцука ды ягонай жонкі Вольгі Грыцук. Усе гэтыя матэрыялы ствараюць своеасаблівую мазаіку вобразаў унікальнай Беларускай Канады.

Па-за асноўнай тэмай, у нумары багата матэрыялаў, якія пэўным чынам таксама зьвязаны з Канадай, бо паходзяць з архіваў тамтэйшых дзеячаў. Прыкладам, публікуецца вялікая падборка карэспандэнцыі Міколы Абрамчыка са збораў ягонага наступніка Вінцэнта Жук-Грышкевіча, дзе адлюстраваныя розныя моманты палітычнай дзейнасьці, хваробы й сьмерці Прэзыдэнта БНР. Таксама з атаўскіх архіваў Жук-Грышкевічаў паходзіць ліставаньне Натальлі Арсеньневай: і актыўныя жыцьцярадасныя лісты зь Нью-Ёрку 1950-х, і заклапочана-сумныя з Рочэстару 1970-х—1980-х. Арыгінальныя, нават крыху авантурныя ідэі наконт арганізацыі грамадзкага жыцьця паваенных беларусаў утрымліваюцца ў лістах міністра фінансаў БНР Уладзімера Шыманца да Вінцэнта Жук-Грышкевіча з часоў стварэньня Сусьветнага Аб'яднаньня Беларускай Эміграцыі. Зьмешчаныя ў "Запісах" і прысьвечаныя асобе Вінцэнта Гадлеўскага ды складаным пытаньням рэлігійнай гісторыі лістоўныя развагі Вацлава Пануцэвіча, а таксама ліст пісьменьніка Пётры Сыча зь Нямеччыны пачатку 1950-х. Публікуюцца ў нумары дынамічныя й эмацыйныя эпісталярыі будучага сьвятара Пётры Саўчыца з Аргентыны да пісьменьніка Міколы Сільвановіча ў Вініпэг. Згаданыя матэрыялы падрыхтаваныя да друку архівістам і дасьледчыкам беларускай эміграцыі Лявонам Юрэвічам.

Сярод іншых, неканадыйскіх, архіваліяў варта адзначыць лісты Яўхіма Кіпеля з часоў крывіцка-зарубежніцкага змаганьня, эмацыйнае ліставаньне беларускіх дзеячаў розных палітычных кірункаў з Юрыем Попкам. У апошнім можна пабачыць унікальныя сьведчаньні Людвіка Галубовіча (Зарэчнага) пра ягоную працу на сакрэтныя службы ў паваеннай Нямеччыне.

Важныя публікацыі падрыхтаваныя для апошніх "Запісаў" дасьледчыкам рэлігійнай гісторыі Аляксандрам Сьлесаравым: ліставаньне ўладыкі Васіля (Тамашчыка) са збораў Скарынаўскай бібліятэкі ў Лёндане, а таксама біяграфічны нарыс, прысьвечаны гэтаму ж дзеячу. Надзвычай цікавыя лісты Прэзыдэнта БЦР Радаслава Астроўскага з Аргентыны да ягонай каханай жанчыны ў Лодзі (праз якія тая жанчына была арыштаваная й асуджаная), падрыхтаваў да друку беларускі дасьледчык з Варшавы Юры Грыбоўскі. Нечаканыя повязі беларусаў з Чэхіі й Францыі (Людмілы Краскоўскай і Лявона Рыдлеўскага) раскрывае ў сваёй публікацыі дасьледчык Купалы й Багдановіча Мікола Трус. Пра журналісцкую дзейнасьць нараджэнца беларускіх земляў Сямёна Рапапорта распавядае доктар Ірына Чыкалава.

Цікавыя й разнастайныя публікацыі, прысьвечаныя эміграцыйным эпіграмам і нэкралёгам, сымболіцы пчалы на гравюрах Скарыны ды традыцыям "Трэнаса" Мялеція Сматрыцкага на эміграцыі, падрыхтаваў для "Запісаў" побач са шматлікім эпісталярыем згаданы вышэй Лявон Юрэвіч.

Прысутнічаюць у новым выпуску альманаха тэксты Макара Краўцова, Станіслава Станкевіча, Пётры Сыча ў раздзеле "Будучыя кнігі", пасьмяротныя згадкі Юрыя Туронка й Юрыя Весялкоўскага ў раздзеле "In memoriam", угодкавая публікацыя Антона Адамовіча пра Якуба Коласа.

Выхад працы "Беларускі прэм'ер" Сяргея Селяха стаў падставай для трох асобных публікацый, зьвязаных з жыцьцём і творчасьцю кампазытара Вячаслава Селях-Качанскага, зьмешчаных у рубрыцы "Вакол кнігі". Традыцыйна багатая на рэцэнзіі й агляды сёлетняя "Кніжная паліца" з тэкстамі Ціхана Чарнякевіча, Ганны Севярынец, Алеся Бразгунова, Сержа Трыгубовіча, Юрыя Грыбоўскага. Завяршае выпуск адмысловая "Кніга ў "Запісах"" – публікацыя не ацэненага да сёньня прыкладу перакладчыцкай дзейнасьці пастара Яна Пятроўскага – "Абароны Сакратаса".

Можна меркаваць, што ў новым выпуску "Запісаў БІНіМ" аматары гісторыі й сучаснасьці беларускай эміграцыі, дый наогул тыя, хто цікавіцца беларускай гісторыяй, знойдуць, што пачытаць і над чым падумаць.

***Натальля ГАРДЗІЕНКА***

# “Галгатня пра ЗыШыА”

## Цацкі для дарослых



Некалькі добрых гадоў таму ў адным з тэкстаў “Галгатні” (“Ураўнілаўка”) я прадказаў зьнікненьне стандартнай лялькі Барбі і абавязковае падгананьне прапорцыяў правільнай Барбі да дадзеных CDC (Цэнтра кантролю захворваньняў і прафіляктыкі). Я памыліўся толькі часткова. Сапраўдная Барбі яшчэ не пад забаронаю, хоць гэта, думаю, пытаньне часу. І думаць тады ня думаў, што гэтае шаленства зойдзе так далёка.

Нядаўна сьвет пабачыла цэлая сэрыя правільных Барбі. Між іншым, Барбі з пратэзам замест нагі, лысая Барбі, Барбі-возочніца, Барбі з вітыліга (парушэнне пігмэнтацыі) і Кен з даўгімі бялявымі валасамі, відачона, пасьля гармонатэрапіі. Амэрыканская фірма “Матэл”, у згодзе з новай палітыкай, “намагаецца сыйсьці ад сэксісцкіх стэрэатыпаў і нерэальных чаканьняў”. На гэты момант прадаюцца, увага-ўвага, Барбі 5-ці тыпаў целаскладу, 22-х адценьняў скуры, 76-ці прычосак, 94-а колерамі валасоў і 13-цю колерамі вачэй. Апошні гіт карпарацыі – гэта Барбі-гермафрадыт. Дзеці самыя павінны вызначыць быць ёй хлопчыкам ці дзяўчынкаю. Лялька прадаецца з рознымі варыянтамі адзежы, дзеці па жаданьні могуць апранаць яе ў сукенку або штаны.

Бедныя тыя дзеці, якім выпала нарадзіцца ў гэты вар’яцкі час – час зьдзіцянелых вар’ятаў. Тое, што раней нашая культура абараняла, цяпер выстаўляецца на люты, дзікі псыхаэксперымэнт пад прыкрыцьцём прыгожых слёганаў пра роўнасьць і невыключэньне. А калі задумацца, жывыя дзеці становяцца цацкамі-закладнікамі ў руках псыхаманьякаў, якія вызначаюць сусьветныя трэнды і палітыку. У дзяцей, фактычна, адбіраюць дзяцінства. Дзецям нельга даць падсрачнік за дрэнныя паводзіны, але дзе-нідзе можна дазволіць прыняць рашэньне пра зьмену полу. У наш час дзіця не належыць сям’і, а ўсёпаглынальнай палітычнай ідэалёгіі, якая хоча захапіць і паглынуць нямнога-нямала ўсё навокал.

Скончыць тэкст выдапае новым прадказаньнем – жыць будзе ўсё больш і больш моташна.

*Віталь ВОРАНАЎ*

### Уплаты ў Згуртаваньне
**Складкі й ахвяраваньні:**

С. Гехт ..........30
Д. Калесьнік ..........30
А. Лук’янаў ..........30
К. Макарэвіч ..........30
Я. Новікава ..........30
М. Паўловіч ..........30
Ф. Прэйс ..........30
Я. Салагубік ..........30
В. Хобатаў ..........30
М. Шаўчэнка ..........30
А. Шоцік ..........30
А. Ярашэвіч ..........30

**Усім шчыры дзякуй!**

### Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:

***P. O. Box 572***
***New York, NY 10113***

**Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” *Viktar Yedzinovich.***

**Аплаціць складкі можна таксама на штомесячных сходах.**

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**
адбудзецца ў суботу **14-га сакавіка 2020 году** ў Доме Маракоў на Мангэтане па адрасу:

***Seafarers and International House***
***123 East 15th Street***
***New York, NY 10003.***

*Даезд цягнікамі падземкі **L, N, Q, R, W, 4, 5, 6** да прыпынку **Union Square**.*

*Будынак Дома Маракоў знаходзіцца адзін блёк на ўсход ад **Union Square** па **15-й вуліцы** на скрыжаваньні з **Irving Place**.*

Заля сходаў на 2-м паверсе.
Пачатак: **а 6-й** гадзіне вечара.

-------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў і імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна давеадацца наведаўшы старонку арганізацыі ў Фэйсбуку:*
***https://www.facebook.com/groups/134811029970802/***

### Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:

В. Балашчэнка ..........30
С. Гехт ..........30
Д. Калесьнік ..........30
А. Лук’янаў ..........30
К. Макарэвіч ..........30
Я. Новікава ..........30
М. Паўловіч ..........30
Ф. Прэйс ..........30
Я. Салагубік ..........30
М. Шаўчэнка ..........30
А. Шоцік ..........30
А. Ярашэвіч ..........30

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі ($30) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні” **Viktar Yedzinovich**.*

*Падпіску таксама можна аформіць на сайце **www.e-krama.com***